# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 48 (248) | ГОД V | БЕЛАСТОК, 27 ЛІСТАПАДА 1960 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## Знаёмімся з НОВЫМ старшынёй ГП БГКТ



Старшыню Галоўнага Праўлення БГКТ — Ліду Бялецкую — сустрэў я ў час працы.

— Што, інтэрв'ю? — перапытала яна заклапочана. — За рана, даражэнькі, за рана. Старшынёй я ўсяго ж толькі другі дзень. Ды і наогул не люблю гаварыць аб сабе журналістам. Вы ж народ такі, скажы вам слоўка, а вы да яго сваіх штук сто даложыце.

Але, урэшце, усё ж такі ўдалося мне нешта даведацца аб жыцці старшыні.

**— Як мне вядома, Вы бессямейная. Ці Вам не сумна, калі закончыце працу?**

— Не, сумаваць не даводзіцца. У мяне ж грамадскіх абавязкаў па самыя вушы.

**— А якія гэта абавязкі?**

— Да апошняга часу я была другім сакратаром пярвічнай арганізацыі. З'яўляюся таксама членам камісіі грамадскай апекі пры КВ ПАРП і членам партыйнага кантролю. Так што грамадская праца зусім не дазваляе мне сумаваць.

**— Ці даўно Вы распачалі грамадскую дзейнасць?**

— О, ужо даўно. Пачаткі яе былі за часоў санацыі, у 1928 годзе ў падполлі на тэрыторыі Бельшчыны.

**— А як Вы праводзіце вольны ад абавязкаў і грамадскай працы час?**

(Працяг на стар. 2)



НАД НАРВАЙ ВЕЧАРЭЭ.

Фота М. Тарасевіч

# БЕЛАЯ ЗЯМЛЯ не народзіць пшана

Зямля тоіць у сваіх нетрах невычэрпныя прыродныя багацці. Шмат грошай затрачвае дзяржава на іх здабычу. Нічога, урэшце, дзіўнага ў гэтым няма, здабыча жалезнай руды, медзі ці серкі прыносіць вялікія карысці. Гэтыя сыравіны, ды і не толькі яны, служаць нашай гаспадарцы, дазваляюць разгортваць шмат якія галіны прамысловасці.

Аб выкарыстанні багаццяў зямлі дзеля развіцця сельскай гаспадаркі гаварыў на VI Пленум ЦК ПАРП тав. Уладыслаў Гамулка. Калі з увагай прачытаем яго выступленне і прыпомнім пастановы апошняга Пленума, тады ўзнікае неабходнасць глыбейшага абмеркавання метадаў і спосабаў далейшага развіцця нашай сельскай гаспадаркі ва ўсіх яе сектарах.

Набліжаецца зіма. Гэта перыяд перадышкі пасля працавітага лета і восені. І вось гэты час трэба належным чынам выкарыстаць для абмяркоўкі што і як трэба зрабіць, каб наступнае лета было багацейшае, каб больш было збожжа, пашы, каб павялічылася пагалоўе жывёлы.

Трэба з прыкрасцю адзначыць, што сельскагаспадарчыя веды ў нашых сялян надта ж яшчэ малыя. А гэта, у сваю чаргу, неспрыяльна адлюстроўваецца на выніках іх працы і прымушае дзяржаву да імпарту збожжа, за якое плацім так патрэбным нам золатам і машынамі.

Гаворачы аб нявыкарыстанні рэзерваў, якія тоіць наша гаспадарка, маю на думцы перш за ўсё, зразумела ў нашых умовах, т о р ф. Зараз аб выкарыстанні гэтага багацця ўсё больш гаворыцца.

Дагэтуль торф выкарыстоўваецца на апал і высылаем яго за граніцу. У сельскай гаспадарцы знаходзіць ён, на жаль, недастатковае выкарыстанне: на падсцілку пад жывёлу і як матэрыял на кампосты.

Амерыканцы імпартуюць польскі торф, які служыць ім на паляпшэнне структуры плантацый прамысловых і сельскагаспадарчых раслін. Плацяць яны нам за гэтае каштоўнае ўгнаенне высокія цэны. А ў нас, на Беласточчыне, ляжаць часта багатыя паклады торфу побач няўрадлівых палёў і сяляне зусім абыякава ставяцца да яго. Недаацэньваецца высокая вартасць торфу, які можа даць нам нават падвойны ўраджай. І ці ж не трэба нам сёння сароміцца, што мы ў гэтым выпадку адсталі ад нашых дзядоў, якія добра з'яўлялі сабе значэнне торфу. Я добра прыпамінаю сабе як яны вазілі торф і выкарыстоўвалі яго на ўгнаенне, зразумела з самым добрым вынікам. — А мы, — пытаюся, — не можам, ці не хочам гэтага рабіць?

Торф, як вядома, паўстае з гніцця карэнняў, травы, моху, лісцяў, а нават дробнай жывёліны. Доказам гэтага з'яўляецца тое, што ён згарае ў агні да 99 прац.

Дзе ж прычыны недастатковага выкарыстання гэтага нашага мясцовага багацця?

(Працяг на стар. 4)

## Святкаванне Вялікага Кастрычніка

10 лістапада г. г. Беларускае, Літоўскае, Рускае і Украінскае Таварыствы ў Варшаве арганізавалі ў зале Савецка - Польскага Інстытута супольную акадэмію, прысвечаную 43 гадавіне Кастрычніцкай Рэвалюцыі.

З цікавым дакладам выступіў рэдактар «Нашага Слова» Мікола Шчырба. У багатай мастацкай частцы прынялі ўдзел беларуская, літоўская, руская і украінская мастацкія групы, якія надта горача ўспрымаліся запоўненай да апошняга месца залай.

В. Ш.



РАЗМОВА З ВАДОЮ

Фота М. Тарасевіч

